РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №6, 15 ЛЮТАГА 1993 ГОДА.

«ВЯШЧУН»

Дрэва... Яно спрадвеку служыла ўсім жывым істотам на зямлі: аддавала плады і лісце, карэнні і сокі. З далёкіх паганскіх часоў дрэва было не толькі прадметам абагаўлення, але і крыніцай натхнення для таленавітых рук майстроў.

Пра шанаванне дрэваў нашымі продкамі чытайце на апошняй старонцы газеты.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

КАНСПЕКТ

## АТРУЧАНЫ ПЫЛ

Нядаўна прамільгнула інфармацыя: у Англіі забаронена ўжываць змяіны яд, які ў медыцынскіх мэтах быў завезены з краін СНД. Прычына — павышаная радыеактыўнасць яду. Гэтае паведамленне, магчыма, выклікала шок у брытанцаў. Жыхароў жа Беларусі, якая пацярпела ад Чарнобыля, цяжка ўжо чым-небудзь шакіраваць. Ды й чаго здзіўляцца? Кругазварот рэчываў у прыродзе — у тым ліку радыеактыўных — фактар пастаянны.

Але гаворка не пра законы фізікі і не пра перыяд паўраспаду. Цяжка іншы раз утрымацца ад параўнання радыяцыі з таталітарна-камуністычнай ідэалогіяй. КПСС разам з іншымі імперскімі структурамі развалілася падобна чарнобыльскаму рэактару, але атручаны пыл бальшавіцкай свядомасці і «саўковага» мыслення ўсё не рассейваецца...

Той факт, што дзвесце дэпутатаў беларускага парламента прагаласавалі за аднаўленне ў правах кампартыі Беларусі (без права на партыйную маёмасць), сам па сабе не заслугоўваў бы ўвагі. У рэанімацыі КПБ не зацікаўлены сёння, бадай, ніхто, у першую чаргу — некамуністы. Але варта супаставіць гэты лакальны факт з некаторымі іншымі.

У парламенце Украіны вялікая частка дэпутатаў дабіваецца аналагічнага рашэння адносна КПУ. У Маскве былыя гэкачэпісты, якіх выпусцілі з турмы на свабоду да суда, карыстаюцца ўсё большай маральнай, ды і не толькі маральнай, падтрымкай афіцыйных асоб і парламентарыяў. Спікер парламента, падчас нядаўняга святкавання перамогі ў Сталінградскай бітве, паўтарае даўно знаёмыя словы пра тое, што, маўляў, нельга чарніць і «перапісваць» гісторыю. А слова Сталінград з націскам на першым складзе, зноў стала вельмі папулярным у камунапатрыётаў.

Хацелася б памыліцца, але ўражанне такое, што дэпутаты ВС Беларусі, якія спешна завяршылі сесію, адклаўшы самыя важныя законы, зноў вырашылі чакаць развіцця падзей у суседняй дзяржаве. Гэта называецца «узважанай палітыкай».

А цяпер прыклад, на першы погляд, далёкі ад палітыкі.

Вядома, што Камароўскі рынак у Мінску ператварыўся ў асяродак злачыннасці і антысанітарыі. Ясна, што трэба прымаць нейкія захады. І якія ж меры прымае гарвыканкам? Рынак (у каторы раз) зачыняецца нібыта дзеля санапрацоўкі амаль на тыдзень. Міліцыя ганяе бабулек, якім няма дзе гандляваць. Спекулянты, перакупшчыкі і рэкеціры пасмейваюцца (яны, безумоўна, перажывуць чарговую кампанію па навядзенні парадку). Страты ж нясуць радавыя камерсанты, як, дарэчы, і пакупнікі, да якіх нікому няма справы. Галоўны вораг уладаў — камерцыя, якая па-ранейшаму лічыцца чымсьці непрыстойным. Ды, на жаль, так яно і ёсць, паколькі камерсантаў сёння літаральна штурхаюць на хабар чыноўнікам, падман і крулецтва. Куды больш, чым словы «рынак», «прадпрымальніцтва», слых чыноўнікаў па-ранейшаму лашчаць «сацыялізм» і «планавая гаспадарка»...

Відавочна, што «перыяд паўраспаду» таталітарнай свядомасці яшчэ не скончыўся.

Віталь ТАРАС.



5 ЛЮТАГА было падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне культуры паміж Міністэрствам культуры і адукацыі Літвы і Міністэрствам культуры РБ, а таксама праграма культурнага супрацоўніцтва на 1993 — 1994 гг.

Была праведзена таксама прэс-канферэнцыя, на якой міністры Я.Вайтовіч і Д.Грынкунас адказалі на пытанні журналістаў і выказалі гатоўнасць вырашаць часам даволі складаныя праблемы ўзаемных культурных стасункаў. У прыватнасці, наладжваецца магчымасць адкрыць у будучым Беларускі музей братоў Луцкевічаў (альбо, напачатку, хаця б выставу), а таксама шырэй адкрыць дзверы вільнюскіх архіваў і бібліятэк перад нашымі даследчыкамі — і наадварот.

**P.S.** Як высвятляецца, адкрыццё Беларускага музея запатрабуе вяртання назад (г.зн. у Вільнюс) і той невялічкай спадчыны (недзе 0,1 часткі ад усёй колькасці экспанатаў), якая засталася нам пасля вайны. Вось што значыць пасылаць па культурныя каштоўнасці рэвалюцыйных дзеячаў, якія, на жаль, і ездзілі ў Вільню ў той час...

**На здымку:** момант падпісання дакументаў у Міністэрстве культуры Беларусі. Фота П. Зубрыцкага.

## «МЫ ХОЧАМ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ»

31 студзеня 1992 года над адным з галоўных гатэляў «Беларусь» быў падняты амерыканскі сцяг. З таго дня праміну год, і з гэтай нагоды Амбасада Злучаных Штатаў Амерыкі запрасіла журналістаў на прэс-канферэнцыю.

У сваёй прамове перад прысутнымі амерыканскі пасол спадар Дэвід Х.Суорц у прыватнасці сказаў: «За гэты час мы падпісалі 4 міжнародныя пагадненні з Беларуссю, скіраваныя на змяншэнне рызыкі, якая зыходзіць ад ядзернай і іншай зброі масавага знішчэння. У нас ёсць дамовы, якія забяспечваюць супрацоўніцтва ў сферы гандлю і інвестыцый. Шматлікія амерыканскія кампаніі, сярод іх такія гіганты, як «Пепсі-Кола», «Ай-бі-эм», «Істмэн Кодак», ужо зрабілі інвестыцыі ў эканоміку Беларусі. На гэты час зарэгістравана больш за 60 амерыканска-беларускіх сумесных прадпрыемстваў».

Наш кар.

## *Інфармбюро*

- 8 лютага ў Беларускім інстытуце праблем культуры адбылося адкрыццё навукова-метадычнай фалькларыстычнай школы для мастацкіх кіраўнікоў фальклорных калектываў.

- Заўтра пачнецца юбілейная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Канферэнцыя арганізавана аддзяленнем гуманітарных навук АН Беларусі. У ёй прымуць удзел вядомыя беларускія пісьменнікі, літаратары, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў.

- У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі працуе выстава, прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння беларускага пісьменніка Каруся Каганца.

- Са спазненнем на месяц, толькі ў канцы студзеня, выйшаў з фабрыкі каляровага друку каляндар на 1993 год, прысвечаны 75 угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У календары прадстаўлены дакументы часоў адраджэння нашай дзяржаўнасці на пачатку стагоддзя. Друкуецца карта, якая шмат дзесяцігоддзяў знаходзілася ў спецсховішчах. Побач з ёй — тагачасныя паштоўкі з гербам і сцягам БНР.

Каляндар выдадзены па ініцыятыве Беларускага фонду культуры.

## ВІНШАВАННІ — ЛАЎРЭАТАМ

Днямі ў Доме работнікаў мастацтваў адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае лаўрэатам Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры за 1992 год.

Міністр культуры рэспублікі Я.Вайтовіч павіншаваў С.Законнікава, С.Грахоўскага, А.Жука, М.Ермаловіча, Я.Пархуту, А.Уліцёнка, Г.Гарэлаву, У.Кур'яна, В.Манаева, М.Пінігіна, Э.Агуновіча, М.Селешчука з высокай узнагародай.

Міністр выказаў спадзяванне, што выпрабавальны для ўсяго народа Беларусі 1993 год усё ж будзе багаты на творчыя адкрыцці.

Пасля заканчэння адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі творчай моладзі рэспублікі: студэнты Акадэміі музыкі, салісты Дзяржаўнай філармоніі.

Ад Міністэрства культуры лаўрэатам былі ўручаны каштоўныя падарункі — творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

Ж. БЛАГАДАНСКАЯ.

## МОВАЮ АКВАРЭЛЯЎ

У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі нядаўна адбылася выстава твораў Аляксандра Мемуса, мастака-графіка з Віцебска.

Пасля заканчэння Ленінградскага інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Рэпіна мастак пераехаў у Віцебск, і з гэтага часу пачаліся яго вандроўкі па старажытных мясцінах Беларусі.

За апошнія некалькі гадоў ён стварыў цыкл акварэляў пад назвай «Сведкі». Многія з гістарычных знаходак арганічна ўвайшлі ў акварэльныя аркушы мастака.

Увагу А.Мемуса прываблiваюць прадметы, што нясуць на сабе адбіткі часу. Намаганнямі творцы яны становяцца жывымі сведкамі мінулага. Мастак надзвычай востра адчувае не толькі лёс прадмета, але і яго прыгажосць, мастацкую дасканаласць.

Нацюрморты А.Мемуса вылучаюцца сваёй строгай завершанасцю — і адначасна — неабмежаванай жывапіснай свабодай. А мы, гледачы, становімся і сведкамі і субяседнікамі ў гэтых змястоўных размовах аб нашай гісторыі, нашай культурнай спадчыне.



А. МЕМУС. «Шкло і кафля».

Мікола ПАГРАНОЎСКІ,
галоўны захавальнік
Дзяржаўнага мастацкага музея
Беларусі.

# "ДАРАБІЦЬ ТОЕ, ЗА ШТО ЎЗЯЛІСЯ..."

*Гутарка з галоўным спецыялістам Міністэрства культуры РБ мастаком Уладзімірам УРОДНІЧАМ*

**— Наша грамадства, здаецца, ужо паспела прызвычаіцца да з'яў, якія яшчэ гадоў пяць таму кваліфікаваліся як акты вандалізму. І ва Усходняй Еўропе, і ў краінах былога Саюза амаль паўсюдна разбураюцца помнікі таталітарнай эпохі, якія на працягу многіх дзесяцігоддзяў старанна тыражыраваліся, часам даводзячы да абсурду саму ідэю «светлай будучыні». Хваля руйнавання помнікаў накацілася і на Беларусь. Як асабіста Вы ацэньваеце гэту з'яву?**

— Мне згадваецца параўнальна нядаўняе шматтомнае выданне «Помнікі Беларусі»... Магчыма, менавіта гартаючы гэтыя тамы, найбольш востра адчуваеш, што такое «старонкі мінулага». І, як кемлівы гаспадар, мімаволі хочаш правесці своеасаблівую «інвентарызацыю», перагледзець помнікі, як пераглядаюць кнігі ў бібліятэцы. Час ідзе, навакольны свет імкліва мяняецца, наша дзяржава імкнецца рухацца ў міжнародную супольнасць, а для гэтага, я не пабаюся сказаць, трэба як мага хутчэй «адмыцца» ад учарашняга дня. У шэрагу іншых на ўсю моц паўстае праблема расчысткі навакольнага асяроддзя ад тых скульптурна-манументальных узораў, якія самі па сабе не ўяўляюць ніякай цікавасці, бо слаба выкананыя з мастацкага пункту погляду, а да таго ж часта — і прысвечаныя незразумела якой гістарычнай падзеі.

**— Які канкрэтна падыход Вы маглі б рэкамендаваць мясцовым уладам у вырашэнні лёсу тых помнікаў?**

— Да нас часта звяртаюцца прадстаўнікі таго ці іншага выканкама і просяць дазволу знесці якую-небудзь скульптурную кампазіцыю. Кожны раз мы ставім пытанне: ці мае гэтае збудаванне мастацкую вартасць? Калі манумент з'яўляецца творам мастацтва і адлюстроўвае пэўную старонку мінулага Беларусі, то ён мае права застацца ў нашым асяроддзі.

**— Гістарычныя падзеі, між іншым, надараліся розныя...**

— Да гісторыі трэба ставіцца з павагай, бо якой бы крывавай і звілістай яна нам сёння ні ўяўлялася, — гэта гісторыя нашага народа. Калі мы будзем знішчаць учора пабудаваны помнік толькі таму, што ён ілюструе таталітарны лад, то рызыкуем страціць не адно мастацкі твор, але нешта важнае для нашай памяці, для ментальнасці.

**— Хто, на Вашу думку, правамоцны вызначаць мастацкую вартасць твора?**

— Мы разумеем, што калі стварыць адзіную рэспубліканскую камісію экспертаў адпаведнага накірунку, то ёй хопіць працы на доўгія гады. Таму Міністэрства рэкамендавала аблвыканкамам стварыць тэрытарыяльныя камісіі экспертаў, адпрацаваць перагляд спісаў помнікаў, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы, і ўрэшце накіраваць свае меркаванні рэспубліканскаму каардынатару. Падобным каардынатарам, лічу, можа стаць «Дзяржкам-



буд» разам з Міністэрствам культуры, Саюзам архітэктараў і Саюзам мастакоў. Стварыць гарманічнае навакольнае асяроддзе здольныя выключна кампетэнтныя спецыялісты! Грамадскія рухі могуць толькі далучыцца да агульнага накірунку, але не вызначаць яго. Браць ініцыятыву на сябе і выступаць ад імя дзяржавы ім, мякка кажучы, рызыкоўна. Мяне вельмі здзівіла, калі нядаўна ў газеце «Добры вечар» ад імя клуба «Спадчына» было выказана, што клуб бярэ на сябе ініцыятыву будаваць помнікі і абвяшчаць конкурсы на іх праектаванне. Магу сабе ўявіць, што мы «напраектуем», калі справа пойдзе так, як прапануе А.Белы. На памяць прыходзяць высілкі незабыўных лебедзя, рака і шчупака з байкі Крылова... Несумненна — конкурсамі павінен займацца аўтарытэтны рэспубліканскі орган. І далучаць да гэтай справы трэба лепшыя творчыя сілы. Шкада, праўда, што мы не можам устанавіць больш-менш прыстойныя прэміі, аднак спаборніцтва па праектаванню твораў манументальнага мастацтва працягваецца.

**— Шэраг конкурсаў нядаўна абвешчаны на дзяржаўным узроўні.**

— У 1990 годзе Урад прыняў пастанову аб праектаванні і пабудове помнікаў найбольш значным дзеячам нашай гісторыі і культуры. Найперш — Францішку Скарыне ў Мінску. Конкурс давялося праводзіць ажно ў чатыры этапы, і калі на пачатку спаборніцтва ўдзельнікаў было даволі многа — разглядалася каля 20 праектаў — то, па меры набліжэння да «фінішу», творчы імпэт відавочна падаў. Урэшце выкрышталізаваўся адзіны творчы калектыў — скульптар А.Дранец і архітэктар М.Камлюк, якія зараз заняты распрацоўкай двух канчатковых варыянтаў, лепшы варыянт вызначыць кампетэнтная камісія. Акрамя таго былі прынятыя пастановы аб пабудове помнікаў Максіму Багдановічу і Кастусю Каліноўскаму ў Гародні, Кірыле Тураўскаму — у Тураве, Францішку Багушэвічу — у Смаргоні, Васілю Вашчыле — у Крычаве, Сімяону Полацкаму — у Полацку. Канешне, гэта праца на дзесяцігоддзі, але не трэба спяшацца, не варта «прывязваць» помнікі да юбілеяў. Адкрыццё помніка мусіць быць падзеяй, своеасаблівым пунктам адліку ў чалавечым жыцці, каб калі-небудзь хтосьці згадваў: «Са мной адбылося тое ці тое ў год, калі быў пабудаваны гэты манумент...» А яшчэ мне здаецца неэтычным удзел у конкурсах майстроў з блізкага ці далёкага замежжа, бо помнікі сваім сынам народ павінен ставіць сам.

**— Ці магчыма ўжо зараз вызначыць паспяховасць або непаспяховасць конкурсаў?**

— На вялікі жаль, назіраецца абыякавае стаўленне сяброў творчых саюзаў. На кожны з конкурсаў прадстаўлена ўсяго па 2-3 праекты. Мы гаворым пра свядомасць інтэлігенцыі ў справе Адраджэння, а тут, мне здаецца, на першае месца выйшла рублёвае пытанне: малыя прэміі. Ды і наогул у нашым грамадстве пакуль што не назіраецца еднасці вакол адраджэнскай ідэі. Першы тур ніякіх вынікаў не даў, як з абурэннем мусіла адзначыць журы. Таму загадам па Міністэрству быў абвешчаны заказны тур, своеасаблівасць якога ў тым, што канкрэтным творчым групам даручана распрацоўка вызначаных праектаў: помнікаў Каліноўскаму, Багдановічу і Багушэвічу. Хочацца спыніцца і на праектаванні помніка Кірыле Тураўскаму. На сённяшні дзень Тураў нагадвае звычайную вёску. Падчас распрацоўкі праекта рэгенерацыі цэнтральнай часткі мястэчка было вырашана ўзвесці храм на месцы, дзе калісьці ён стаяў. Група праектантаў, запрошаная Мінскай Епархіяй і Жыткавіцкім райвыканкамам, распрацавала і прывязала да храма і праект помніка. Склаўся, такім чынам, юрыдычны нонсенс: з аднаго боку, мы абвясцілі конкурс, а з другога —ужо падрыхтавана сустрэчная ініцыятыва. Паколькі пакуль што конкурс станоўчых вынікаў не даў, экспертная камісія дала згоду на ажыццяўленне альтэрнатыўнага праекта. Давядзецца, мусіць, абвясціць заказны тур і на помнік Сімяону Полацкаму. Так што працы, прынамсі на бліжэйшыя дзесяцігоддзі, нам хопіць. Ці ёсць сэнс пашыраць дыяпазон распачатай справы? Існуе і такое пажаданне, аднак я лічу, што мэтазгодна ўстрымацца ад новых пачаткаў, дарабіць тое, за што ўзяліся. Трэба не забывацца, што помнік — гэта выключная з'ява, і права на памылку мы не маем.

**— Жадаю Вам поспехаў і дзякуй за размову.**

**Гутарку вяла Галіна БУЛЫКА.**

# ПРА ЛЕПШУЮ МЕЛОДЫЮ НЕЛЬГА І МАРЫЦЬ



Ёсць на свеце шмат прыгожых мелодый, якія сталі нацыянальнымі гімнамі (польскі, французскі і г.д.). Настаў час і нам, беларусам, мець свой гімн, не горшы за гімны іншых народаў. Нам здаецца (пра гэта ўжо пісалася ў перыядычным друку), што менавіта такім творам можа стаць вядомы на ўвесь свет паланез ля-мінор «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага. Значная частка беларускай грамадскасці менавіта гэты твор і бачыць у блізкай будучыні сваім нацыянальным гімнам. Сярод прапанаваных на конкурс варыянтаў толькі «Магутны Божа» (словы Н.Арсенневай) можа скласці яму пэўную канкурэнцыю. Праўда, мелодыю твора «Магутны Божа» не кожны здолее выканаць, чаго нельга сказаць пра мелодыю М.К.Агінскага. Яна вядомая і даступная кожнаму. Усе яе любяць з дзяцінства. Але тут паўстае два пытанні: па-першае, твор «Развітанне з Радзімай», на думку некаторых, належыць, маўляў, да польскай культурнай спадчыны, ды і самога кампазітара той-сёй лічыць палякам. Па-другое, іншым не падабаецца сама ідэя, асноўная думка, закладзеная ў гэтым творы, — развітанне з роднай зямлёй, Радзімай, таму, маўляў, гэта мелодыя не можа прэтэндаваць на статус нацыянальнага гімна. Аднак генеалагічныя карані М.К.Агінскага, яго дзяржаўная дзейнасць, частка жыцця, пражытага на Беларусі, а таму і творчасць сведчаць пра тое, што ён належыць таксама і нашаму народу. У гэтай сувязі адзначым, што продкі М.К.Агінскага займалі ў Вялікім княстве Літоўскім значныя дзяржаўныя і адміністрацыйныя пасады, а адзін з іх (Рыгор Антоні) нават з'яўляўся аўтарам праекта аддзялення Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы. Сам М.К.Агінскі быў адным з энергічных дзеячаў польска-беларускай дзяржавы Рэчы Паспалітай.

Кампазітар хоць і нарадзіўся ў ваколіцах Варшавы (маёнтак бацькі Гузаў), аднак значная частка яго жыцця прайшла на Беларусі (маёнтак Залессе бліз Смаргоні). Тут ён меў магчымасць назіраць за жыццём і побытам беларусаў. Аўтар мелодыі «Развітанне з Радзімай» увабраў у сябе ўсё лепшае, што характэрна было для нашай шляхты і народа: палымяную любоў да роднай зямлі, вернасць дзядоўскім звычаям, энергічнасць, спагадлівасць, шляхетнасць, пачцівасць і інш. Гэты твор — свайго роду ўзнёслы гімн прыніжанаму, але не скаронаму роднаму краю.

Як мазурка Дамброўскага «Ешчэ Польска не згінэла...» гуртуе польскі народ, так і паланез «Развітанне з Радзімай» з'ядноўвацьме беларускую нацыю.

Нам, як аднаму з тых народаў, на долю якіх найбольш выпала розных няшчасцяў, бедстваў у Еўропе, нарэшце павінна выпасці ўдача. Бог жа шчасце і няшчасце павінен дзяліць пароўну.

Відаць, мы не памылімся, сказаўшы, што ў выпадку апытання грамадскай думкі большасць беларускага народа скажа «ТАК» гэтай геніяльнай мелодыі. У любым нацыянальным гімне галоўную ролю адыгрывае мелодыя. Мы думаем, што нашы паэты змогуць напісаць выдатныя радкі.

Гэта мелодыя адпавядае і нацыянальнаму тэмпераменту, характару, ментальнасці нашага народа.

Выбар гімна для нас мае настолькі важнае значэнне, што мы проста не маем права памыліцца.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# КАФЛЯ: ЧАС ЦАРАВАННЯ

*Тэмы, партрэты, сюжэты...*

## ПАЛІВАНАЯ І ПАЛІХРОМНАЯ КАФЛЯ

Так склалася гістарычна і вельмі справядліва, — што царыцаю ў хаце зрабілася ... печ. І не толькі ў сялянскай. У заможных магнацкіх ды княжых палацах і замках — таксама. Вось пра Яе Вялікасць печ, пра яе ўбранне, а дакладней — паліваную і паліхромную кафлю XVI-XVII стагоддзяў — мы хацелі б сёе-тое распавесці дапытліваму чытачу.

З сярэдзіны XVIст. асаблівая ўвага надаецца зместу рэльефаў на кафлі. Усе тыпы кафляў, нават маленькія перамычкі, аздабляюцца імі. Знікае выпадковасць тэмаў, нават назіраецца кананізацыя некаторых сюжэтаў. Увасобленыя ў трывалым керамічным матэрыяле, дзе малюнкі павінны быць актуальнымі на працягу існавання печы, ад 10 — 20 да 100 і болей гадоў, яны нясуць вечны і глыбокі чалавечы сэнс. Побач з выкарыстаннем раней распрацаваных геаметрычных арнаментальных матываў з сімвалічным гучаннем з'яўляюцца міфалагічныя сюжэты з фальклорнымі персанажамі, экзатычнымі жывёламі, кентаўрамі, дзівоснымі раслінамі, рэлігійнымі атрыбутамі.

Многія тэмы становяцца дамінуючымі, існуюць у вытворчасці не адно стагоддзе, увесь час набываючы новыя рысы, новую сімволіку і змест. Так, прыкладам, тэма квадрата ўпершыню загучала яшчэ ў XVст. Кафлі ў выглядзе квадрата ці ўпрыгожаныя малюнкам у квадраце надзяляліся сімвалічным сэнсам дому, парадку, спакою. Спалучэнне некалькіх квадратаў і круга, квадрата і салярнага знака рабілі вобраз больш складаным, апавядальным. Спалучэнне квадрата ў квадраце магло азначаць адзінства сямейнай традыцыі, квадрата і салярнага знака — дабрабыт. У канцы XVI — пачатку XVIIст. кампазіцыя ўскладняецца, тыя ж элементы падпарадкоўваюцца чатырохчленнай сіметрыі, становяцца драбнейшымі. Квадраты паступова насычаюцца расліннымі матывамі, літарамі. У першай палове XVIIст. чатырохчленная схема перарастае ў арнамент сеткавага тыпу, сетка квадратаў спалучаецца з кропкамі, зоркамі, кветкамі, яна больш дынамічная — за кошт размяшчэння квадратаў па дыяганалі. Выраблялі кафлі з малюнкам квадратаў і ў XIX — пачатку XX ст., дзе квадрат пераплятаўся з раўназначным па велічыні раслінным арнаментам.

Другой палове XVIст. уласціва паліваная і непаліваная кафля, квадратная вонкавая пласціна якой аздоблена высокім рэльефам у выглядзе круга, упісанага ў нешырокую рамку. Менавіта такую кафлю мы знайшлі ў Лідзе, Гродне, Мазыры і Заслаўі. Гэтым жа часам на Беларусі з'яўляецца кафля з партрэтнымі выявамі. Такая кафля знойдзена ў выніку археалагічных раскопак у Лагойску, Мінску, Гродне, Дзяржынску, Маладзечне і Мазыры.




Па форме, памерах і характары выяў «партрэтную» кафлю можна падзяліць на тры групы, якія прадстаўлены тэракотавымі і зялёнапаліванымі паасобнікамі. Да першай групы можна аднесці прамавугольную кафлю, на якой ёсць выява «па пояс» сталага мужчыны з барадою (або маладой жанчыны) у рэнесансавых строях, упісаная ў вялікі арачны праём.

Кафлі з выявай мужчыны маюць абрэвіятуру АМНІВ, яна, на жаль, пакуль не расшыфраваная. «Партрэтная» кафля другой групы — квадратная, упрыгожана профільнай выявай барадатага мужчыны ў рэнесансавым берэце. Яе прыклад — фрагмент бракаванай кафлі з Маладзечна з рэшткамі зялёнай палівы, а гэта сведчыць пра яе мясцовае паходжанне.

Цікавая «партрэтная» кафля знойдзена ў Гродне і Мінску. На вонкавай пласціне з двухприступкавай рамкай па краях — малюнак чалавека ў профіль, які трымае ў руках рэчы, падобныя да атрыбутаў каралеўскай або імператарскай улады (дзяржава і скіпетр).

Сярод кафляў з антрапаморфнымі выявамі другой паловы XVIст. асобнае месца займае паліхромная кафля з раскопак, праведзеных намі ў 1988 годзе на Старым Замку ў Гродне. Гэта вялікі фрагмент паясовай кафлі з выявай двух вояў у рэнесансавых уборах. Адзін з іх трымае ў руках дзіду, а другі — меч (альбо корд). Сцянную кафлю замкавай печы аздабляў малюнак мужчыны ў лаўровым вянку. Выява мужчынскай галавы пададзена ў профіль, яна займае цэнтральную частку вонкавай пласціны і ўпісана ў круг. У кутах знаходзяцца выявы львоў і двухгаловых арлоў.



Неад'емнай часткай інтэр'ера самых шыкоўных магнацкіх і княжых палацаў становіцца двух'ярусная кафляная печ. Вонкавае люстэрка печаў гэтага часу набывае складанае мастацка-філасофскае гучанне. На фоне геаметрычных тыпаў асобных кафляных радоў пануючымі робяцца сюжэтныя матывы рэалістычна-выяўленчага характару.

Пачынаючы з канца XVI і да сярэдзіны XVII стагоддзя вытворчасць паліхромнай кафлі дасягнула свайго найбольшага росквіту. Менавіта да гэтых часоў належаць знаходкі паліхромнай кафлі, выяўленыя археолагамі ў Мінску, Гродзенскім, Мірскім і Гальшанскім замках, у Мсціславе, Магілёве, Полацку, Воршы, Гродне, Пінску, Крычаве, Віцебску, Слоніме, Нясвіжы і Заслаўі. Мы бачым не імгненна ўзніклую вытворчасць, а яе паступовае станаўленне. Спачатку гэта рысы так званай «меццакерамікі» — пераход да белага колеру за кошт ужывання падглазурных ангобных пакрыццяў. Потым назіраецца выкарыстанне белай заглушанай глазуры разам з празрыстымі зялёнымі палівамі, і, нарэшце, вырабляюцца кафлі з рэльефным малюнкам, вельмі часта яшчэ з ангобным белым пакрыццём, размаляваныя каляровымі эмалямі.

Каларыт складаўся з белага, жоўтага, светла- і цёмна-зялёнага, блакітнага і цёмна-сіняга, карычневага колераў. Паказальна тое, што сюжэты малюнкаў, размаляваных фарбамі, яшчэ старыя, традыцыйныя. Вытворчасць паліхромнай кафлі была разлічана на масавы наклад. Як і раней, у драўлянай форме адціскалася вонкавая пласціна з невысокім дэкаратыўным рэльефам, з тыльнага боку да яе прымацоўвалася ганчарная румпа, але на вонкавую паверхню паверх рэльефу часта наносілася ангобнае пакрыццё, і пасля гэтага рэльеф размалёўваўся каляровымі

глазурамі. Каб палепшыць якасць глазурных пакрыццяў, часта рабілі двухразовы абпал. Тэракотавыя кафлі, зробленыя ў адной і той жа форме, што і каляровыя, былі крыху большыя па памеры.

Называлі паліхромную кафлю «цаніннаю» альбо «кунштоўнаю», «цаніннаю» — ад назвы вокісу волава «цыны», які надаваў глазуру заглушаны белы колер, а «куншто́ўнаю» — з-за яе высокага кошту, які абумоўлівалі складаная тэхналогія, сыравіна, высокі ўзровень майстэрства і, безумоўна, мастацкі выгляд. Набыць такую кафлю мог толькі багаты чалавек. Таму яна ўпрыгожвала самыя заможныя палацы і замкі, уносіла ў інтэр'ер каляровую поліфанію, дзе толькі шыкоўныя, багата дэкараваныя гліняныя вырабы маглі стасавацца са стылёвым асяроддзем магнацкіх інтэр'ераў. Але разам з паліванымі рабіліся кафлі і непаліваныя — тэракотавыя, больш танныя. У мэтах эканоміі нярэдка выкарыстоўваліся ў адной печы розныя кафліны: паліваныя кляліся на галоўных, добра бачных месцах, а ў астатніх, глухіх кутках змяшчаліся тэракотавыя.

Рэшткі шыкоўных кафляных печаў, складзеных з паліхромных кафляў канца XVI — пачатку XVII ст., вывучаны намі ў часе раскопак Мірскога замка. Сцянныя, палавінныя, вуглавыя, паясовыя, гзымсавыя, кафлі-каронкі, альбо гарадкі, кафля-дахоўка, якою пакрывалі купалы печаў... Увесь пячны набор як на далоні. На адной з кафляў-каронак ёсць дата — 1583г.

Асноўную паверхню печаў складалі кафлі, аздобленыя разнастайным раслінным арнаментам, а ў цэнтральную частку ўмуроўваліся геральдычныя кафлі з выявамі герба князёў Радзівілаў — гаспадароў замка. На выраб мірскіх кафляў ішла белая прыглушаная глазура, сіняя глухая — кобальтавая, цёмна-карычневая — марганцавая, глухая жоўтая — зафарбаваная вокіслам сурмы, светла-зялёная — сумесь жоўтай і сіняй. Выразнасць малюнка падкрэсліваў рэльеф. Паліхромныя кафлі першай паловы XVIIст., падобныя да мірскіх, знойдзены Ігарам Чарняўскім у Гальшанскім замку. Яны вызначаюцца выявамі з манаграмамі Сапегаў.

Варта адзначыць, што інтэр'еры магнацкіх палацаў аздабляліі паліваныя кафлі-медальёны з выявамі гербаў уладальнікаў. Такія кафлі — і зялёнапаліваныя, і паліхромныя знойдзены намі ў тым жа Мірскім замку.

У часе будаўнічых прац на старажытнай вуліцы Мінска Нямізе побач з помнікам архітэктуры XVIIст. — Петрапаўлаўскай царквой — на глыбіні 1,7м коўш экскаватара зачапіў завал бярвення. Калі археолагі пад кіраўніцтвам Валянціна Собаля разабралі завал, то пад ім аказаліся рэшткі глінабітнага ганчарнага горана з цэглаю, бітай і перапаленай кафляй з прыгожым геаметрычным і раслінным арнаментам. На некаторых вырабах відаць плямы зялёнай палівы. Вакол горана валялася шмат кавалкаў глазураванага і тэракотавага посуду, часткі глінянай формы для выпрацоўкі кафлі.

Знаходка глінабітнага горана — рэдкая, унікальная з'ява. Гэта «вылепленае» з гліны-сырцу даволі кволае збудаванне выкарыстоўвалася для абпальвання прадукцыі ганчарных рамесных майстэрань. Горан быў цыліндрычны, дасягаў у дыяметры каля метра і меў дзве камеры: ніжнюю — топку з 14 прадухамі ў скляпенні і верхнюю — з праёмам для загрузкі і выгрузкі вырабаў. Унутраная паверхня печы абпалілася, відаць, разам з вырабамі, а знешняя заставалася неабпаленай і знаходзілася ў зямлі.

Знаходка горана (датуецца сярэдзінай — канцом XVIст.) раскрыла перад даследчыкамі таямніцу мясцовай сярэднявяковай керамічнай вытворчасці, а менавіта вытворчасці кафлі, яе тэхналагічных і мастацкіх дасягненняў.

Рэшткі аналагічнага ганчарнага горана былі знойдзены В.Зайцавай у 1986 годзе ў г.Друя. Пабудова кепска захавалася, але ўдалося прасачыць яе дыяметр у памеры крыху больш за 2м. Для пабудовы горана выкарыстана цэгла і камяні розных памераў.



## АНЁЛЫ, АМУРЫ, ВАЯРЫ

У канцы XVI — першай палове XVIIст. на Беларусі атрымала шырокае распаўсюджванне паліваная кафля з выявай галавы амура або анёла з крылцамі, а зрэдку і іх фігур. У гэты ж час шырока ўжываецца гзымсавая і сцянная кафля, на якой ёсць выява чалавека на кані (вершніка). Значная колькасць кафлі гэтае серыі звязана з адлюстраваннем «Пагоні» — герба Вялікага княства Літоўскага. Такая кафля знойдзена ў Гродне, Мірскім замку, Магілёве, Заслаўі, Друі і іншых гарадах Беларусі. Другая група беларускай кафлі мае розныя варыянты выявы святога Юрыя (Георгія) Пераможцы. Найбольш раннія кафлі з гэтым малюнкам знойдзены на тэрыторыі Мірскога замка і датуюцца другой паловай XVIст. Фігура вершніка і асабліва каня пададзена ў познарэнесансавых (маньерыстычных) традыцыях. Кафлі з Магілёва і Мсціслава (першая палова — сярэдзіна XVIIст.) вылучаюцца барокавай трактоўкай сюжэту. Асабліва, як нам падаецца, арыгінальная мсціслаўская кафля. Выява асілка на кані, які дзідай забівае цмока і вызваляе з палону прыгажуню-царэўну, мае непасрэдныя аналагі ў беларускім жывапісе XVIIIст. і народнай батлейцы XIXст.

Узброены вершнік з шабляй, пікай і пісталетам адлюстраваны на кафлі XVIIст. з Заслаўя. У 1988г. археолаг Іван Сінчук знайшоў у Магілёве фрагмент паліхромнай кафлі XVIIст. На ёй —малюнак амазонкі, якая страляе з лука. Да сярэдзіны XVIIст. можна аднесці малюнак пешага воіна, упісанага ў васьміграннуто рамку, на мсціслаўскай кафлі. Постаць воіна з шабляй у выцягнутай руцэ, упісаная ў паўцыркульную арку, вакол якой размешчаны гірлянды расліннага арнаменту — такі сюжэт зялёных паліваных кафляў з раскопак Івана Сінчука і Зміцера Яцкевіча ў Магілёве.

Паліхромная беларуская кафля ў XVIIст. паступова трапляе ў Маскоўскую дзяржаву, якая дагэтуль не ведала паліхромнай ганчарнай вытворчасці. Даследчыкі лічаць, што майстры, якія аздобілі паліхромнай кафляй з раслінным арнаментам фасады царквы Святой Тройцы ў Нікітніках (збудавана ў 1635 годзе ў Маскве), паходзяць з Беларусі. Пра гэта сведчаць кампазіцыя і прамалёўка арнаменту, і каляровая гама палівы (бірузовая зеляніна, густая сінь і пералівы белага з сонечна-жоўтым). І гэта не дзіўна, бо пасля 1618 года, калі Смаленшчына зноў увайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, умовы для з'яўлення нашых майстроў у Маскве сталі даволі спрыяльнымі. Аб тым, што на Смаленшчыне ў першай палове XVIIст. існавала мясцовая школа беларускіх кафляроў, сведчаць вынікі археалагічных раскопак. Значная колькасць паліванай кафлі, уласцівай для ўсходняга беларускага рэгіёна, сабрана ў Смаленску і яго ваколіцах.

У XVIIст. мсціслаўскі кафляр Сцяпан Іваноў (Палубес), які доўгі час працаваў у Маскве, зрабіў керамічныя паліхромныя гарэльефы евангелістаў на царкве Успення ў Ганчарах. Такі «почырк» архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі не ўласцівы для Беларусі, аднак захаваліся пісьмовыя крыніцы, якія сведчаць, што каляровай і пазалочанай глазураванай кафляй з выявамі святых у візантыйскім стылі быў аздоблены адзін з беларускіх храмаў канца XV — пачатку XVIст. — царква ў Кодне.

Надзвычай цікавай з'явай у беларускім кафлярстве канца XVI і XVIIст. была анімалістыка. Сярод шматлікіх выяў свойскіх і дзікіх жывёл, птушак, рыб можна вылучыць два падыходы да іх адлюстравання. Адзін — рэалістычны, там прасочваецца развіццё і станаўленне стылю ад першых натуралістычных адбіткаў з жывых ракаў і рыб, дзе майстар нібы яшчэ прыстасоўваўся да перадачы анімалістыкі (вывучаў пластыку, мову, тэхналогію), — да выяў, зробленых прафесійна, з высокім майстэрствам, адчуваннем малюнка і характару жывёл.

Другі падыход характарызуецца адцягненай трактоўкай вобразаў. Выявы жывёл выкарыстоўваюцца для алегарычнай, іншамоўнай перадачы зместу адпаведна характару жывёлы. Яны надзяляюцца сімваламі.



Напрыклад, леў паўстае ў выглядзе драпежніка, уладара, пераможцы, арол асэнсоўваецца з цэнтралізацыяй улады, гонару, сілы. Коні, сабакі, ваўкі, шакалы, лісы, малпы, цмокі, вялікае мноства іншых выяў жывёл выкарыстоўваліся для перадачы патрэбнага зместу. Вельмі часта майстар, які ніколі не бачыў драпежных або фантастычных жывёл (леў, шакал, арол, грыфон, цмок), маляваў іх па-свойму. У выніку з'яўляліся фантастычныя выявы, дзе ў звычайнага сабакі адрасталі непамерныя кіпці і былі велізарныя зубы, а то і крылы; тулава гуся прыстасоўвалася да арлінай галавы. Ёсць зусім неверагодныя, незразумелыя выявы. Такая трактоўка анімалістычных выяў часцей за ўсё выкарыстоўвалася ў геральдыцы.

З сярэдзіны XVIIст. на змену зялёным прыходзяць кафлі, пакрытыя рудымі, карычневымі і светла-карычневымі глазурамі, зафарбаванымі вокісламі жалеза і марганца. Гэта адпавядала новаму часу, новым сацыяльным уяўленням пра хараство і прыгажосць. На жаль, вытворчасць паліхромнай кафлі скарачаецца ў сярэдзіне — другой палове XVIIст., і звязана гэта з заняпадам эканомікі Беларусі, выкліканай спусташальнымі войнамі...

**Алег ТРУСАЎ.**

*На здымках:*

1. Выява беларускае шляхты на кафлі канца XVI — пачатку XVIIст., г.Мінск. Раскопкі Зянона Пазняка.
2. Паліваная кафля канца XVIст. Крэўскі замак. Раскопкі Алега Трусава.
3. Партрэтная кафля XVIст. Мазырскі замак. Раскопкі Алега Трусава.
4. Кафля з выявай воіна, XVIст. Заслаўе. Друкуецца ўпершыню.




**Звычайна ў нашых спрэчках, размовах, дыскусіях ірацыянальныя аспекты духоўнага жыцця застаюцца па-за ўвагай. Магчыма, гэта вынік прагматызму мыслення беларусаў, больш схільных засяроджвацца на «відавочных» праявах рэчаіснасці, чым мудрагеліць над нечым няўцямным. Дарэчы, калі мы звернемся да фальклору, то ўбачым, што яго бязмежная прастора таксама запоўненая знакамі рэальнага і толькі дзе-нідзе паміж імі вытыркаюцца як бы выпадковыя парасткі нязмушанай медытацыі. Аднак гэта не азначае, што мы зусім пазбаўленыя цікавасці да абстракцый. Асобныя факты сучаснага інтэлектуальнага руху гавораць за тое, што ў нас абуджаецца «прага метафізікі», аб чым сведчыць і гутарка Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Аляксандрам СТАНЮТАЙ (літаратурным крытыкам, празаікам, даследчыкам творчасці Фёдара Дастаеўскага, Івана Буніна, іншых расейскіх, а таксама беларускіх пісьменнікаў).**

# ЖЫЦЦІ. ДОЛЯ. ЛЁС.

**Галіна Шаблінская:** Аляксандр Аляксандравіч, можа, спачатку звернемся да саміх паняццяў: лёс, доля, жыццё...

**Аляксандр Станюта:** Час ад часу заўважаеш, што слова «лёс» мы схільны ўжываць зусім не ў тым сэнсе, якому яно адпавядае. Таму што нярэдка міжволі маем на ўвазе ход жыцця альбо ланцуг падзей, з'яў як вынік пэўных намаганняў чалавека, народа, грамадства. Прынамсі, тое, што людзі, калі і не выклікаюць самі, свядома, дык здольны ў чымсьці змяніць, пераўтварыць ці хаця б «засвоіць» так, быццам бы гэта і сапраўды справа іх уласных рук. І не дзіва: мы ж усе — выхаванцы матэрыялізму, які яшчэ ў мінулым стагоддзі Іванам Кірэеўскім быў названы «навукаю, што адарвалася ад неба», і які ў нядаўні наш час татальна панаваў у выглядзе славутых «гістмату» і «дыямату». Так, мы зацятыя, а цяпер во ўжо і апантаныя матэрыялісты, якімі проста не могуць не быць атэісты, гвалтоўна перакананыя ў гэтым, так бы мовіць, да свайго яшчэ нараджэння. Памятаеце: «Мы кавалі, і дух наш...» — «Молат,» — так і карцела стукнуць у канцы. І таму: «Чалавек — каваль свайго шчасця» — і ўжо само сабой «гаспадар свайго лёсу», — як сцвярджаў сацыялістычны рэалізм, гэты самы фантастычны рэалізм на свеце.

Але дастаткова зазірнуць у слоўнік, каб нагадаць сабе: лёс — перш за ўсё ход падзей, якія складаюцца незалежна ад волі чалавека. Гэта, відаць, тое, што адбылося ці адбываецца ў жыцці нечакана, а то і насуперак нашым жаданням, імкненням, намаганням. Драматычная, трагічная, радзей — шчаслівая, але неспадзяванка. І ў беларускай мове, як і ў рускай, сярод сінонімаў «лёсу» ("судьбы") ёсць адзін найбольш дакладны, цудоўны па сваёй жыццёвай і мастацкай ёмістасці — «доля». І ў народзе кажуць: такая ўжо выпала доля, такая ўжо мая доля...

**Г.Ш.:** І менавіта гэтым выразам народ карыстаецца найчасцей. Можа, адчуваючы гэту яго звышсілу?

**А.С.:** Найчасцей, так. І тут як бы падкрэсліваецца, што доля — гэта тое, што ўжо дасца ці не дасца, выпадзе ці не выпадзе. А калі выпадзе, дык у які бок — таксама невядома.

**Г.Ш.:** І потым, аказваецца, ты зусім не вольны выбіраць гэтыя «варункі лёсу»...

**А.С.:** Так, ты не вольны тут. Калі на шчасце не вольны, а часцей за ўсё на бяду. Наш апарат інтэлектуальны, разумовы, апарат лагічны, «медытацыйны» не ахоплівае цалкам таго, ад чаго ідзе, можа ісці да нас доля. Ён не здольны ахапіць — і гэта натуральна — усё тое, сярод чаго мы знаходзімся, бо гэта нешта невымерна большае, чым мы самі і спазнанае намі на сённяшні дзень. Зразумела, чалавек не ўладар стыхіі прыроды і космасу. І барані Божа, каб гэта калі здзейснілася. Але ж чалавек, не забудземся, не ўладар і тых вышынь, глыбінь свайго існавання, глыбінь сваёй свядомасці і падсвядомасці, якія ён пазначае як містычныя. Таму, калі кажуць лёс — дык нярэдка дадаюць: сляпы, цёмны і значна радзей — шчаслівы. Бо, мабыць, лепей, хай сабе і «забабонна», як лічыцца, але ўсё ж папярэдзіць сябе пра тое небяспечнае, нечаканае, што можа стацца, чым жыць нарасхрыст, адно ляцець «наперад і вышэй».

**Г.Ш.:** Таму чалавек засцерагаецца, можа, нават і свядома ад гэтага: і сябе, і сваіх блізкіх засцерагае...

**А.С.:** У нас жа кажуць: беражонага Бог беражэ.

**Г.Ш.:** Асабліва часта бабулі гавораць сваім унукам: паберажаыся.

**А.С.:** Галіна, я ўпэўнены — даказваць не магу і не буду, тут не алгебра, але я ўпэўнены: народ добра ведае, разумее, што такое лёс у самым глыбокім сэнсе. Ён толькі не выдае ніякіх фармулёвак. А веданне ягонае адбіваецца ў прыказках і прымаўках, у фальклоры... У Дастаеўскага ёсць думка: чалавецтва ўвогуле спасцігае заўсёды значна болей, чым паспявае зафіксаваць на той ці іншы момант у сваіх навуковых выніках. І вось што цікава — ужо даводзілася нагадваць, але паўтару: менавіта гэты, неспасціжны па дакладнасці сваіх прароцтваў пісьменнік яшчэ больш за стагоддзе таму напісаў пра наш гістарычны лёс, што «без веры ў сябе не ўстояў бы ў вяках беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі». Разумееце, уражанне такое, што ён ужо быццам здагадваўся і пра выпрабаванні, наканаваныя гэтаму народу ў нашым стагоддзі.

**Г.Ш.:** Вы згадалі зараз, як тлумачыцца паняцце лёсу чалавекам у яго зямным жыцці. Гэта, будзем так казаць, ужо спасцігнута людзьмі даўным-даўно, і сення мы ім карыстаемся як дадзеным. А што адбываецца з творчасцю мастака? Творчасць —працяг жыцця ці адбітак лёсу асобы? Якая планіда наканавана мастаку і як пачувае ён сябе ў пэўным часе? Тым больш, што Вы спрабавалі казаць пра тое, якім складаным быў час раней, калі нас так ці інакш прымушалі да марксісцка-ленінскага вызначэння і разумення творчасці і лёсу творцы?

**А.С.:** Лёсу не было. Ужыванне гэтага выразу лічылася ў лепшым выпадку... ну, нетактоўным ці што. Адразу нібы патыхала нечым ідэалістычным ці рэлігійным, што аднолькава ўспрымалася як нешта «не нашае», не сацыялістычнае і г.д. Ды што там лёс ці душа мастака?! Асобы яго не было. А калі была, дык толькі «ў кантэксце эпохі» і як «люстэрка» яе. А лёс?.. Жыццё — во гэта яшчэ зразумела. І жыццё, усе памяталі, даецца чалавеку адзін раз, і пражыць яго трэба так... Як? Усе рабілі выгляд, што ведаюць.

Але пакінем гэта, звернемся да літаратуры. Раман В.Гросмана мае назву «Жыццё і лёс». Менавіта так, праз злучнік «і». Бо гэта не адно і тое ж у чалавека, у народа. У мастака, творцы — тым больш. Стэндаль, да прыкладу, пісаў пра Моцарта, Расіні, Мікеланджэла і іншых вядомых людзей: «Жыццё Моцарта», «Жыццё Расіні»... І ніколі не ставіў у назве «лёс», хоць не абмінаў жыццёвых фактаў, звязаных з гэтым паняццем. Ён займаўся менавіта апісаннем жыцця тых людзей, іх характараў і галоўнай іхняй справы. Але ёсць людзі ў гісторыі, якія быццам бы самі выбіраюць і падказваюць нам адпаведныя словы, калі мы гаворым або пішам пра іх. «Лёс Пушкіна» — называе сваю працу вядомы расейскі вучоны, крытык В.Бурсаў, і чамусьці адчуваеш, што менавіта такі выраз найбольш стасуецца з гэтым імем. А ў новай кнізе вершаў В.Зуёнка «Чорная лесвіца» ёсць такое асацыятыўна-эмацыянальнае і сэнсавае спалучэнне: трагічны лёс Пушкіна, ягоная Чорная рэчка ў Пецярбургу — і Купала, які загінуў на белай, а для нас ужо назаўсёды чорнай мармуровай лесвіцы гасцініцы «Масква». Так, Купала — гэта лірыка і лёс. А Колас — эпас і жыццё.

Ці ўзяць прыклад з Міхасём Стральцовым. Таксама хочацца перш за ўсё сказаць: лёс. Ён памёр неспадзявана рана для сябе і для ўсіх. У тым узросце, калі яшчэ жыць і працаваць. Ён не быў падрыхтаваны да гэтага ні псіхалагічна, ні ў якім-небудзь іншым плане. Я добра ведаў яго, мы разам пачыналі вучобу ва універсітэце, сябравалі. Потым я сачыў за яго творчасцю. Ягонае жыццё, на жаль, ужо ў маладосці сталася нейкім паламаным, скамечаным, атручаным горыччу душэўнага бязладдзя і неўтаймаванасці. А чалавек і мастак ён быў вельмі арганічны і разам з тым тонкі, поўны сапраўднай культуры. Я б сказаў, нават і пяшчотны, безабаронны, калі знаходзіўся ў стане душэўнай раўнавагі і не засланяў свой розум ад святла, — але гэта зусім не надзвычай субтыльнасці.

**Г.Ш.:** Зрэшты, усе гэтыя якасці сёння асабліва прыцягваюць да яго творчасці моладзь. Многія з тых, хто прыходзіць зараз у літаратуру, з найвялікшаю павагаю і шчырасцю называюць імя Стральцова.

**А.С.:** Моладзь адчувае... І я лічу вельмі вялікім дасягненнем пісьменніка, мастака наогул, калі ягонай творчасцю цікавяцца маладыя. Гэта, ведаеце, гарантыя таго, што і сапраўды «напісанае застаецца».

У «Смаленні вепрука» ён кажа: можа, маўляў, і не напішу апавяданне, якое задумаў, бо не хачу, каб здзейснілася ў пісанне даражэйшае мне за ўсё... А я думаю, што ён у сваёй творчасці здзейсніў-такі «ў пісаніне» самае любае са свайго жыцця, дзіцячае і юнацкае, маладое. А пасля, агледзеўшыся ў жыцці ўжо сталым, убачыў, балюча адчуў, што яно — іншае, жорсткае і рацыянальнае, хваравіта-рэфлектыўнае. І ягоны творчы арганізм, надзвычай чуйны і трапяткі, у добрым сэнсе слова хутчэй крохкі, чым магутны, не змог ахапіць гэтага, зрабіць сваім — і ўвайшоў у безвыходны канфлікт з жыццём. Пісьменнік не змог болей пісаць, і настаў канец яго жыцця. У рэшце рэшт гэта было натуральна для яго.

**Г.Ш.:** Лагічна нават, аказваецца? І гэта страшна.

**А.С.:** Так, логіка тут трагічная. Разумееце, жыццё, якое абступала яго, мастака, у апошні час — яно ўжо не паддавалася ягонай любові. Любоў не здолела перайсці на гэтае жыццё — так востра ён адчуваў яго дысгарманічнасць, увесь гэты гул і раз'юшанасць. І ведаеце, што яшчэ? Іншы раз нават думаецца: а ці не адпомсціла такім вось чынам пісьменніку самае дарагое яму, жыццёвае, менавіта за такую поўную, без астачы здзейсненасць сваю ў мастацтве? За тое, што было аддана ў другое жыццё — у літаратуру, з асабістага, патаемнага ператварылася ў бачнае для ўсіх? Хто ведае, а можа, яно і надалей хацела належаць толькі яму аднаму, застаючыся ў сваёй першаснай прыродзе? Мастацтва ж — не адно выратаванне, але ў пэўным сэнсе і грэх мастака. Бо выявіўшы, аб'ектызаваўшы нешта з перажытага, жывога для яго, ён вызваляецца і пакідае гэта. Тут ёсць штосьці ад метафізічнай здрады. Таму што, я думаю, калі чалавек любіць ці ненавідзіць нешта — ад успаміну да нейкага тыпу чалавека, —дык яно, гэтае «нешта», таксама любіць ці ненавідзіць яго ў адказ. І пазбаўляючыся нянавісці да чагосьці, ты і сам робішся недасяжным для яе, мацнееш; але вызваляючыся ад свайго дарагога, можна і асляпець, асабліва калі нічога ўжо болей не міла.

**Г.Ш.:** Часам думаеш, чаму так абрываюцца лёсы творчых людзей? Неспадзявана і ў тым самым росквіце жыцця і ўзросту, калі б, здавалася, столькі яшчэ магчыма... Ці ў гэтым і ёсць нейкі пасыл лёсу, якому аднекуль зверху відаць, дзе і калі чалавеку пайсці з жыцця?

**А.С.:** І ўсё ж лёс бывае часта несправядлівы і для тых, каго ён заўчасна адводзіць з жыццёвай сцежкі, і для нас.





Фота Ю. ІВАНОВА.

**Г.Ш.:** А можа, найперш для нас, таму што мы застаёмся?

**А.С.:** Магчыма, так. Бо творчы чалавек, ды й чалавек наогул, павінен скончыць сваю справу на зямлі, паставіць кропку ці хаця б наблізіцца да яе. І мы кожны раз адчуваем сябе збяднелымі, калі лёс з такой няўмольнасцю вяршыць свой суд. І вось яшчэ адзін сумны прыклад: лёс Жэні Янішчыц. Яго таямніцу мы ўжо ніколі не разгадаем, яна назаўсёды засталася з паэткаю. Хаця, хто ведае, можа, калі-небудзь хто-небудзь і патрапіць на якісьці след ад гэтага ў саміх вершах Янішчыц... Відаць, усё ж лёс правіць творчым чалавекам, мастацтвам. Глядзіце самі, можна ж сказаць сабе ці абвясціць усім: буду пісаць пра гэта, бо яно патрэбна сёння. Калі ласка, ну і што далей? А далей — сеў і з добрым намерам напісаў дрэнную рэч. Бо стварэнне — гэта справа не столькі розуму, колькі падсвядомасці. І справа сумлення, справа боская.

Яшчэ адзін прыклад лёсу творцы. Убачыў кнігу вершаў Н.Арсенневай, факсімільнае выданне ейнага віленскага зборніка 1927 года «Пад сінім небам». Пачаў чытаць біяграфічныя звесткі пра яе на вокладцы. Успомнілася тое, што яна пісала ў «ЛіМе» пра сваё жыццё. Там таксама згадвалася, як у 1943-м годзе ў Мінску загінуў яе сын Яраслаў. Яна не прыводзіла падрабязнасцей, казала толькі, што ён загінуў падчас выбуху міны ў гарадскім тэатры (зараз тэатр Янкі Купалы). Што адбывалася тады? Там 22 чэрвеня быў сход мінскай школьнай моладзі, пасля якога меўся быць спектакль. Чакалася, што будзе прысутнічаць гаўляйтэр Беларусі В.Кубэ. А ён не прыйшоў. Сведкі кажуць, што ўвогуле бачылі толькі аднаго нейкага афіцэра, ды й той сядзеў з жанчынай недзе ўверсе, ці не на галёрцы. Мне вельмі хацелася б думаць, што міна ўзарвалася таму, што акцыю, на жаль, ужо не ўдалося прыпыніць, а не з іншай якой прычыны... Загінула нямала юнакоў. У тым ліку і Яраслаў, старэйшы сын Арсенневай. Мая стрыечная сястра і ейныя сяброўкі былі знаёмы з ім, вадзілі адну кампанію. Прыгожы, цёмнавалосы, ён шмат ведаў, і ўсім было цікава з ім. Яны праводзілі Яраслава ў апошні шлях. Адпявалі яго ў Чырвоным касцёле, што побач з Домам урада. А пахавалі ўсіх загіуўшых на Вайсковых могілках, у брацкай магіле. Атрымалася, што сын паэтэсы загінуў ад рук партызанаў, на сваёй жа зямлі. І мне здаецца, што гэта паўплывала на яе выбар і таксама было штуршком да ад'езду адсюль і далейшых вандраванняў — даволі важным момантам лёсу.

**Г.Ш.:** Лёс... Шмат чаго проста не даецца ў словы, калі пачынаеш гаварыць пра гэта. Ці ж няпраўда?

**А.С.:** Слова наогул недасканалы інструмент. Іншая справа —музыка. Даўно Вы слухалі Пятую сімфонію Бетховена? Вось што такое лёс...

# ПАМЯТАЮ ТОЙ ДЗЕНЬ...



Памяць захоўвае гэтыя незабыўныя гады, што адышлі ў мінулае: Вялікую Айчынную, восень сорак чацвёртага. Вызвалены ад ворага, разбураны, спалены, у руінах Віцебск. Нямногія ацалелыя дамы, у іх ліку — будынак на беразе Дзвіны. Да вайны тут быў клуб металістаў. Каб дабрацца да гэтага ацалелага дома, трэба было пераадолець нямала завалаў з бітай цэглы і абвугленых бярвенняў на месцы былых дамоў і не зваліцца ў варонку ад бомбы паміж руінамі. Вось такім ён быў, Віцебск, восенню сорак чацвёртага года...

У вераснёўскі вечар да ацалелага будынка вакзала прыйшоў цягнік з Новасібірска. З гэтым цягнікам вярнулася ў горад трупа драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. У яе складзе былі вядомыя яшчэ ў трыццатыя гады артысты — Ільінскі, Малчанаў, Шэлег, Звездачотаў, якія працавалі ў гэтым тэатры з дня яго нараджэння. І на Смаленскай плошчы адкрыўся той восенню дваццаць пятага першы ў гісторыі Віцебска стацыянарны тэатр, хутка названы імем Якуба Коласа. Ужо перад вайной славу тэатру прынеслі спектаклі «Несцерка», «Рэвізор», «Вяселле Крачынскага», дзе выканаўцай галоўных роляў быў Аляксандр Ільінскі...

І вось яны вярнуліся з далёкай Сібіры ў свой родны горад Віцебск. І ўбачылі ў руінах свой тэатр на Смаленскай плошчы. Яшчэ ішла вайна, але гораду патрэбны быў тэатр! І яны атрымалі гэты ацалелы будынак на беразе Дзвіны, дзе быў клуб.

І пачалася праца. Прыйшлі будаўнікі, прывялі да парадку глядзельную залу, сцэну, памяшканні для артыстаў. Праз укапаныя ў зямлю слупы да будынка працягнулі электрычныя правады, і праз месяц запрацавала перасоўная электрастанцыя на тым беразе. Яе энергія ішла на чыгуначны вакзал, у бальніцу і ў тэатр імя Коласа. Усе ж астатнія дамы ў горадзе яшчэ доўга, да сорак шостага года былі без электрычнасці, і ўвечары цьмяна зіхацелі ў вокнах газавыя лямпы, каганцы, свечкі.

Ільінскі разам з сям'ёю атрымаў кватэру ў доме на Смаленскай. У тым жа доме далі кватэру майму бацьку, хірургу. Ён вярнуўся з фронту, дзе рабіў аперацыі параненым у палявых умовах. Мама прыехала са мной з Арэнбурга (тады Чкалаў), куды мы эвакуяваліся ў ліпені сорак першага. Так, восенню сорак чацвёртага года мы з Ільінскімі пачалі жыць у адным доме.

Памятаю той вечар... Аляксандр Канстанцінавіч зайшоў да нас. Сказаў маці: «Іду граць Несцерку. Сёння прэм'ера. Хай ваш сынок пойдзе са мною!»

І я пайшоў з Ільінскім у тэатр. Быў зімовы вечар. Завіруха гудзела па вуліцах горада. На той бераг мы перайшлі па пантонным мосце. У цемрадзі ярка зіхацелі вокны тэатра. Да пад'езда спяшаліся людзі...

Незабыўны Несцерка ў выкананні Аляксандра Ільінскага!

Спектакль «Несцерка» ў пастаноўцы віцяблян атрымаў у 1946 годзе Сталінскую прэмію. Яе лаўрэатам стаў Ільінскі. Тады прыязджаў з Масквы вядомы кампазітар Дунаеўскі — ён быў членам Камітэта па Сталінскіх прэміях у галіне літаратуры і мастацтва. Я памятаю той спектакль, калі яго паказвалі Дунаеўскаму. Ісак Восіпавіч смяяўся ад душы... Я глядзеў на яго і ўспамінаў цудоўныя мелодыі. Якраз у гэтыя дні ў гарадскім кінатэатры «Спартак» ішла кінакамедыя «Вясёлыя хлопцы» з музыкай Дунаеўскага... Побач з ім сядзела яшчэ адна сталічная славутасць, артыстка МХАТ Вольга Андроўская.

Памятаю і іншыя ролі Аляксандра Канстанцінавіча. Расплюеў у «Вяселлі Крачынскага», Шчаслівцаў у «Лесе»... І, вядома, герой яўрэйскага класіка Шалома Алейхема. Так, Тэўе-малочнік!

Дачка Ільінскага аднаго разу расправядала мне, што пры падрыхтоўцы да ролі Тэўе ён часта размаўляў са старымі віцяблянамі-яўрэямі. Артысту патрэбна было чуць іхнюю гаворку, характэрную інтанацыю. Тэўе Ільінскага быў першы на сцэне савецкага тэатра пасля трагічнай смерці выдатнага яўрэйскага артыста Міхоэлса, які выконваў ролю Тэўе...

Памятаю той сумны дзень, калі хавалі Ільінскага. Бясконцая працэсія ішла ад новага будынка тэатра за труною артыста. Віцябляне праводзілі яго ў апошнюю дарогу...

**Ігар ЧУМАЧЭНКА.**

г.Львоў.

**Ліст з рэдакцыі**

# ПІШЫЦЕ НА... «ПЛОЦЕ»!

Сёння я, карэспандэнт аддзела сацыяльных праблем і лістоў Яўген Паўлікаў, або проста Жэнік, хачу з Вамі параіцца. Апошнім часам варта толькі разгарнуць любую са шматлікіх газет, як мяне пачынаюць ахопліваць сумненні: у якую індустрыю ўкласці свае грошы (пажадана СКВ, зразумела), ці не пахіснуліся мае акцыі ў адным з банкаў блізкага замежжа, дзе правесці адпачынак — на Фіджы або на Канарах і ці не купіць мне у рэшце рэшт АТС 28-515 па камерцыйнай аб'яве? Для поўнага, так бы мовіць, шчасця?

Наша газета, калі Вы заўважылі, нічога нікому не прадае —ні «Блютнер», ні «ROYAL», ні оптам, ні ў розніцу. Нават шлюбных аб'яў не дае...

І аддзел наш, як казаў некалі адзін вядомы дзеяч, пойдзе «другим путём». Я асабіста прапаную новую рубрыку «Плот». Магчыма, у вас народзяцца іншыя варыянты назвы... На «Плоце» можна пісаць усё. Дакладней, амаль усё. Размова не ідзе, вядома, пра палітычную цэнзуру. Хаця трэба заўважыць, ад яе калісьці моцна пацярпелі кітайскія студэнты, калі вывешвалі свае «дацзыбао» на плошчы Нябеснага Спакою. Ну, ды гэта я так, між іншым. Словам, ад Вас у рэдакцыю можа прыйсці тэлеграма, а мо Вам захочацца вестачку праз газету блізкаму чалавеку ці знаёмаму прысылаць, павіншаваць кагосьці, сказаць пра набалелае. Галоўная асаблівасць жанру надпісаў на плоце — лаканічнасць. Памятаеце Грызлі з «Алісы ў краіне цудаў», «пісьменніцу на плоце»? Найбольш цікавыя лозунгі, шаржы, вершы, карыкатуры, анекдоты, фотаздымкі з дасціпным подпісам, дасланыя Вамі, могуць з'явіцца на нашым «Плоце». Калі атрымаецца сапраўдны конкурс, пераможцаў чакае сюрпрыз...

Дарэчы, наш «Плот» будзе самым дэмакратычным у свеце. У конкурсе могуць прымаць удзел як самыя масцітыя аўтары, так і невядомыя нікому дэбютанты.

Умовы гульні простыя. Вазьміце І (адзін) «сэлдам» (аркуш) паперы, пішыце, да прыкладу, «Няхай жыве «Плот» Жэніка!» і дасылайце на адрас: Мінск, 220050, вул.Кірава, 25, з адзнакай «Плот». Або — «Жэніку». У нашай сталіцы своеасаблівай «будкай галоснасці» стала апошнім часам Цэнтральная плошча, дакладней — бетонны плот на ёй.

У якасці ілюстрацыі прапаную здымак вядомага фотамайстра А.Клешчука. Хоць, зразумела, у Мінску хапае сцен і платоў, на якіх маладыя мінчукі выказваюць свае думкі і пачуцці наконт палітыкі і палітыкаў, эстрадных куміраў і іншых папулярных дзеячаў, яшчэ больш тэмпераментна выкарыстоўваючы традыцыйныя формы і лексіку. Вось і гэты фотакадр прымушае спыніцца, азірнуцца... Ці не так?






У агульным кульце прыроды ва ўсходнеславянскіх язычнікаў было шырока распаўсюджана абагаўленне свяшчэнных жывёл і пакланенне свяшчэнным дубровам ці дрэвам (даволі часта свяшчэннымі лічыліся, акрамя дуба, ліпа, бяроза, вярба). Напрыклад, з бярозай звязаны цэлы шэраг вясенніх абрадавых і карагодных песень і не толькі ў славян. Яшчэ не так даўно ў горных раёнах Таджыкістана бяроза лічылася свяшчэнным дрэвам толькі таму, што чорныя вертыкальныя плямы на яе кары нагадвалі першую літару арабскага алфавіта «аліф». Сярэдневяковыя персідскія паэты параўноўвалі з гэтай літарай гнуткі стан сваёй каханай, а вусны яе параўноўвалі з другой літарай — «мім». Вярба — паводле народных паданняў, тужлівая і самотная душа, якая заўсёды перажывае, заўсёды ў адвечным клопаце не толькі аб сваім дабрабыце, але і аб дабрабыце іншых.

Патрэбна адзначыць таксама, што шанаванне дрэваў адбывалася як своеасаблівы рытуал маленняў, у якіх звярталіся да вегетатыўнай сілы прыроды, што шырока адлюстравана ў этнаграфічных запісах.

Людзей, якія адважваліся закрануць свяшчэннае дрэва ці асмельваліся сарваць з яго лісток, садраць кару, чакала суровая кара. Вось як апісваў такое пакаранне ў старажытнай Германіі Дж.Фрэзер: «Аб тым, наколькі вялікае значэнне надавалі гэтаму пакланенню ў даўнейшыя часы, можна меркаваць па антыгуманнасці пакарання, якое, па законах германцаў, чакала кожнага, хто асмельваўся садраць кару жывога (проста жывога, а не свяшчэннага дрэва. — А.Н.). Злачынцу выразалі пупок і прыбівалі яго да той часціны дрэва, якую ён абадраў; потым няшчаснага вадзілі вакол дрэва да таго часу, пакуль кішкі цалкам не намотваліся на ствол. Пакаранне гэтае было накіравана на тое, каб замяніць засохлую кару дрэва жывой тканкай чалавека».

У старажытных беларусаў, што пакланяліся гаям і дубровам, існавала павер'е, паводле якога лічылася вялікім і непапраўным грахом нават узяць у свяшчэннай дуброве зламаную галінку. Чалавек, які гэта зрабіў, мусіў ці хутка памерці, ці быць знявечаным. Жанчынам туды ўваход быў увогуле забаронены.

Дрэвы, якія раслі ля крыніц, рэчак, азёраў, карысталіся асаблівай пашанай, бо ў такіх мясцінах можна было адначасова звяртацца і да вегетатыўнай сілы прыроды і да жывой вады, якая біла з зямлі. Сэнс звяртання да крынічнай вады і ўзнікненне казачнага паняцця «жывая вада» часта тлумачыліся тым, што калі звярнуцца непасрэдна да вады, то можна ўзмацніць пасылаемую да хрысціянскага Бога малітву.

Пакланенне дрэвам захавалася ва ўсходніх славян і пасля прыняцця хрысціянства. Царкоўнікі ганьбілі ў сваіх павучаннях абагаўленне прыродных стыхій, тлумачылі ўсё гэта ці няведаннем сапраўднай веры, ці рознымі штукарствамі д'ябла, які: «овы прельсти в тварь веровати и в солнце же и в огнь и во источники же и в древа и во ины различны вещи». У сінадальнай рэдакцыі Статута Уладзіміра Святаслававіча чытаем, што кожны, «хто молиться под овином или в рощеньи, или оу воды», падлягае царкоўнаму суду. Таму цяжка пагадзіцца са сцвярджэннем Кірылы Тураўскага, які, відаць, значна паспяшаўся, гаворачы, што сучасныя яму русічы сталі перакананымі хрысціянамі: «не нарекутся богом стихия, ни солнце, ни огонь, ни источники, ни древа». У «Жыціі Канстанціна Мурамскага» таксама перабольшваецца перамога хрысціянства над язычніцтвам. Аўтар «Жыція» гаворыць: «дуплинам деревянным ветви и убрусцем обвешивати и им поклоняхуся, все пристама». А вось як цікава апісана пакланенне язычнікаў у «Тэкстах аб ерэтычным руху ў Балгарыі XIVст.»: «Ён (манах Феадарыт. — А.Н.) вучыў пакланяцца дубу і ад яго (дуба. — А.Н.) прымаць вылячэнне. Таму многія прыносілі там у ахвяру авечак, ягнят, верачы ў гэты падман».

Даволі доўгаму пакланенню славян і балтыйскіх народаў дрэвам актыўна садзейнічала і тое, што літоўцы, напрыклад, былі звернуты ў хрысціянства толькі ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзя. Гэта толькі ў асноўным, але ж былі яшчэ і цяжкадаступныя мясціны, дзе ўплыў паганскай веры захаваўся на значна даўжэйшы час. Да таго ж культ дрэваў працягваў адыгрываць важную ролю. Некаторыя пакланяліся не толькі магутным дубам, але і разгалістым высокім дрэвам іншых парод. На іх думку, гэтыя волаты маглі перадаць на зямлю волю паганскіх багоў. Другая частка літоўцаў займалася тым, што як зрэнку вока аберагала свяшчэнныя гаі, размешчаныя побач з вёскамі. Лічылася смяротным грахом выпускаць туды пасвіцца жывёлу ці нават заходзіць людзям без уважлівых на тое прычын. У свяшчэнных гаях мужчыны збіраліся толькі ў вызначаныя дні, тады, калі багі гатовы былі выслухаць іхнія зямныя справы, а турбаваць багоў без падстаў было строга забаронена. Вызначаў саму важнасць справы служка, які пастаянна жыў тут.

Сляды пакланення дрэвам можна сустрэць у летапісных зводах, якія адлюстравалі падзеі, што адбываліся некалькі стагоддзяў таму. Дж.Фрэзер прыводзіць такі прыклад. Калі місіянер Іеранім Пражскі (каля 1380 — 1416) пачаў пераконваць язычнікаў-літоўцаў высекчы свае свяшчэнныя гаі, натоўп жанчын прасіў караля (так у тэксце. — А.Н.) Літвы супыніць місіянера: разбураючы лясы, сцвярджалі жанчыны, ён разбурае дом божы, які пасылаў народу дождж і святло сонца. А ніжагародскі царкоўнік у сваёй чалабітнай за 1636 год скардзіцца, што «в седьмой четверток по Пасце собираются жены и девицы под дерева, под берёзы и приносят яко жертвы, пироги и каши и яичницы и поклонясь берёзам, оучнуть походя песни сатанинские приплетая пети и дланми плескати, и всяко бесятся». Пакаранне, у выпадку звароту язычнікаў да сваіх абрадаў, магло быць самым жорсткім. «Перш за ўсялякую праўду патрэбна гаварыць праўду божую... Таму святы Канстанцін, напісаўшы пра першы закон, перадаў яго і сказаў так: «Усялякае сяло, дзе адзначаюцца язычніцкія абрады і заклікання, патрэбна аддаць божаму храму з усёю маёмасцю, колькі ёсць гаспадароў у тым сяле. Тых жа, хто твырыў абрады, патрэбна прадаць з усёй маёмасцю, а грошы раздаць бедным». Часам, паводле слушнага сцвярджэння Г.Івакіна, спалучэнне хрысціянства і язычніцтва набывала даволі своеасаблівыя формы ў выглядзе звычаю правіць малебны пад старымі дубамі. Царкоўнікі і тут не ўпусцілі зручнага выпадку, каб заклікаць на свае малебны як мага болей людзей. Агульнавядома, што нават тыя пустуючыя ўжо мясціны, дзе некалі раслі свяшчэнныя гаі і дрэвы, заўсёды ахвотна наведваліся дэмакратычнымі слаямі насельніцтва, як вясковага, так і гарадскога. А калі гэтае «святое» дрэва працягвала па-ранейшаму зелянець і радаваць вока сваёй сілай, то, безумоўна, яно на доўгія гады захоўвала за сабою свае цудадзейныя ўласцівасці. Вось і даводзілася служкам новага ўжо Бога аператыўна падладжвацца пад імклівы поступ часу. У некаторых мясцінах нават будавалі цэрквы і храмы побач з былымі язычніцкімі капішчамі, каб толькі не адбіць ахвоту ў былых наведвальнікаў пакланяцца Хрысту. Вядомы царкоўны і грамадскі дзеяч Феафан Пракаповіч у свой час (XVIIст.) таксама не забараняў «пред дубом молебны петь».

Свет уяўляўся старажытнаму чалавеку адухоўленым, і дрэвы, вядома, не складалі выключэння. «Бывае, — адзначае французскі даследчык фальклору Б.Аля, — што ўшанаванне аддаецца і жывому дрэву той ці іншай пароды, паколькі лічыцца, што ў ім схавалася звышнатуральная сіла». Наш продак верыў у тое, што дрэвы маюць душу, такую ж як і ў людзей, і з гэтай нагоды пакланяўся ім. Дрэвам надаваліся розныя цудадзейныя ўласцівасці. Адухоўленыя дрэвы, лічыў старажытны чалавек, маюць пачуцці. Падрыхтоўка працэсу ссячэння такога дрэва па сваёй падрабязнасці, стараннасці нагадвала хутчэй нейкую своеасаблівую падрыхтоўку вясковага знахара да таямнічай варажбы, чым звычайную працу дрывасека. Бо людзі думалі, што калі дрэнна падрыхтавацца да гэтага занятку, зрабіць гэта без належнай пашаны, то дрэва можа вельмі жорстка і бязлітасна расправіцца з тымі, хто яго пакрыўдзіў: забіць, разарваць, пакалечыць, напалохаць да смерці і г.д.

*(Працяг будзе)*



Фота П. ЗУБРЫЦКАГА.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

выдаецца з кастрычніка 1991года

*Заснавальнік* — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ,
В. ГЕДРОЙЦ,
У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ,
С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ,
М. КУПАВА,
В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ,
К. ТАРАСАЎ,
А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ,
В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД

Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ

Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: — 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12. Тэлефон: 27-83-18

©

Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11402
Замова 227

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку".

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

